**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№41(705) 10 кастрычніка 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**Персанальная выстава мастака Эдуарда Мацюшонка ў Глыбокім. Кветкі мастаку.**
Працяг тэмы на стар. 4.
*Фота Ул. Скрабатуна.*






















## Шаркоўшчынскі раён

# Парушыўся спрадвечны ўклад

■ Чэслаў Якубовіч

**Сёлета з-за афрыканскай чумы свіней пацярпелі ў Беларусі не толькі буйныя свінаводчыя гаспадаркі, але і тысячы вясковых жыхароў, якім прыйшлося прырэзаць нават свінаматак і парасят у сваіх хлеўчуках.**

Без свіней поўнасцю цяпер засталіся 13 раёнаў краіны, шмат праблем узнікла і на ўсходняй частцы Віцебшчыны. У заходніх рэгіёнах крыху спакайней, але і ў Шаркоўшчынскім раёне ў зону бедства трапілі 24 вёскі. Усе гэтыя паселішчы размешчаны паблізу буйнога свінакомплексу сельгаспрадпрыемства “Гарадзец”. Летам мясцовых жыхароў папярэдзілі работнікі сельсавета аб неабходнасці ў кароткі тэрмін зарэзаць усіх свіней на панадворках, а гэта амаль паўтысячы галоў. Вымушаныя меры многімі людзьмі былі ўспрыняты балюча, хапала слёз, нервовых зрываў. Аднак з цягам часу вяскоўцы ўсё ж змірыліся са сваім лёсам, бо свініну яшчэ можна было ўжыць для ўласных патрэб, альбо прадаць. Горш прыйшлося тым, у каго раслі маленькія парасяткі альбо рохкалі ў хлявах свінаматкі.

Па існуючых правілах у зоне 5 км ад комплексу ніякіх кампенсацый людзям не прадугледжана. Адначасова стаў вельмі жорсткім пропускны рэжым на дарозе Гарадзец-Верацеі, які перакрылі і ўстанавілі бар’ер дэзінфекцыі з пастом аховы. На ім пастаянна нясуць дзяжурства работнікі гаспадаркі з міліцыяй. Як і ў іншых месцах, свінакомплекс пад узмоцненай аховай, у раёне знішчылі ўжо больш сотні дзікіх кабаноў. У зоне рызыкі АЧС паблізу вяскоўцам не дазволяць гадаваць свіней і ім трэба пераходзіць на вырошчванне іншай дамашняй жыўнасці.

## Докшыцкі раён

# Ад сала да лясных арэхаў

■ Станіслаў Раманчук

**Даволі сур’ёзныя змены да лепшага перажыў апошнім часам, у адрозненне ад іншых малых паселішчаў, гарпасёлак Бягомль Докшыцкага раёна.**

Тут на бойкай трасе Мінск-Віцебск, на перакрыжаванні некалькіх дарог стаў вельмі папулярным буйны аб’ект прыдарожнага сервісу. Днямі ў папрыгажэўшым мястэчку адкрыўся таксама пакуль унікальны ў краіне магазін “Дары прыроды”. Гэту краму мясцовае райпо зрабіла з экалагічна чыстай драўніны ў выглядзе драўлянага церама. У аб’ект уклалі 1,5 млрд. рублёў інвестыцый, пастараліся, каб ён стаў папулярным у шматлікіх пакупнікоў. Галоўнае, што ўсё добра прадумалі, а асартымент тавараў зрабілі вельмі шырокім. На гандлёвых паліцах прадстаўлена ўсё, што добра расце на агародах і ў садах руплівых беларусаў, а таксама багацце роднай прыроды. Адна з лепшых пчаляпасек Бярэзінскага краю па дагаворы пастаўляе сюды гаючы мёд. За некалькі дзён гандлю на ўра ў пакупнікоў разышлася бочка свежай квашанай капусты па рэцэптах продкаў. Дары ж лесу прадстаўлены ў свежым, замарожаным, марынаваным і сушаным відах у прываблівай упакоўцы цэха шокавай замарозкі. Па суседстве размясціўся і нарыхтоўчы магазін з міні-рынкам. Бойка ідзе гандаль па прымальных цэнах вырашчанай бульбай, гароднінай, свежай рыбай. Да таго ж тут у краме ёсць секцыі тавараў для дачнікаў, аматараў лазні, адпачынку на прыродзе. Прадстаўлена ў краме і сувенірная прадукцыя, вырабы лепшых народных майстроў краю. Мясцовыя жыхары і ўсе жадаючыя могуць заказаць і паўфабрыкаты для розных сямейных урачыстасцей, а едучыя па трасе і адпачываючыя ў мясцовым санаторыі вельмі ўпадабалі купляць беларускае сала.

## Пастаўскі раён

# Каб адпачывала душа

■ Кастусь Александровіч

**З надыходам восені і заканчэннем сезону водпускаў, работ на прысядзібных участках у людзей паболела вольнага часу і стала магчыма арганізоўваць розныя культурныя імпрэзы.**

Вось і ў Паставах скарысталіся такой магчымасцю і запрасілі на творчы вечар вядомую беларускую паэтку з Мінска, аўтара 9 зборнікаў вершаў і дзясяткаў папулярных песень Валянціну Паліканіну. Сустрэча з тытулаванай пісьменніцай, лаўрэатам міжнародных і нацыянальных літаратурных прэмій прайшла з поспехам у былым раённым Доме культуры, цяпер канцэртнай залай дзіцячай школы мастацтваў імя Тызенгаўза. На яе сабраліся прыхільнікі высокага мастацтва, супрацоўнікі бібліятэк раёна. Пасля заканчэння цудоўнага канцэрта ўсе жадаючыя маглі купіць адзін з двух дыскаў папулярных песень на словы Валянціны ў выкананні вядучых майстроў беларускай эстрады. Дарэчы, і сама паэтэса, якая працуе яшчэ рэдактарам аддзела культуры часопіса “Гаспадыня” з натхненнем для гледачоў прачытала свае лепшыя вершы. Дапоўніла сваю калегу і сяброўку спявачка Вольга Патрый, дыпламант і лаўрэат розных конкурсаў артыстаў эстрады і аўтарскай песні. Цікава і прафесійна вяла праграму аўтар цыкла тэлеперадач “Таямніцы душы” на Беларускім тэлебачанні Ала Салаўёва. Праз некаторы час у райцэнтры з аншлагам прайшоў і канцэрт вядомага майстра гумару з Расіі Сяргея Драбаценкі. Білеты на гэтага артыста коштам да 145 тысяч рублёў разабралі хутка, а сярод гледачоў быў разыграны прыз – сучасны тэлевізар.

# Аб самым надзённым

## УСЁ БОЛЕЙ СУАЙЧЫННІКАЎ НЕ БАЧАЦЬ ДЛЯ СЯБЕ НА РАДЗІМЕ АНІЯКІХ ПЕРСПЕКТЫЎ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Цяпер вось разважаючы, што будзе ў нас далей, не адгарадзіцца ад думкі, што ўсё гэта робіцца не ад добрага жыцця. Сярод чыноўнікаў адна толькі Надзея Ермакова асмелілася выказацца, што нельга падобную пошліну ўводзіць абсалютна для ўсіх. На самой справе на граніцы цяжка будзе вылічыць, хто з беларусаў едзе па розных справах, да родных, у турпаездку, а хто рэгулярна ў шоп-туры.**

Па колькасці непрыемных падзей сёлетняя восень пабіла ўсе ранейшыя рэкорды. Але раней такога не было, каб на працягу паўмесяца двойчы павышаліся ў Беларусі цэны на паліва, а ноччу на 17 верасня аўтамабільны бензін і салярка зноў падаражэлі яшчэ на 8 %. Папярэдняе такое павышэнне адбылося, нагадаем, 3 верасня. Пры гэтым мы закупляем у Расіі нафту і газ намнога танней, чым іншыя дзяржавы Еўропы, не кажучы ўжо пра суседнюю Украіну, на якую Крэмль нахабна ціснe ўвесь час, пагражае ёй гандлёвай блакадай, калі яна падпіша дамову аб асацыяцыі з Еўрасаюзам. Аднак нашы суседзі – малайцы, відавочна ўкраінцы ў большасці сваёй ужо вызначыліся з далейшым еўрапейскім вектарам развіцця.

А вось для нас, падобна на тое, пакуль мала адчувальны фінансава-эканамічны крызіс уступае ў новую вострую фазу і краіну чакаюць сур’ёзныя цяжкасці прадстаячай зімой. Адзін толькі прыклад, скарацію вытворчасць адзін з флагманаў індустрыі “Беларуськалій”, спынілі былі працу два з яго чатырох руднікоў, паколькі вырабленыя калійныя ўгнаенні не было куды дзяваць. Дай Бог, каб гэта сітуацыя ў Салігорску палепшылася, бо гэта прадпрыемства – адзін з асноўных здабытчыкаў валюты для Беларусі.

Цяпер пытанне з “зялёненькімі” банкнотамі стала актуальным для ўсіх, як для радавых грамадзян, так і для розных суб’ектаў гаспадарання. Але ж сёлета напрыканцы лета, толькі ў жніўні ў нашай краіне ў абменніках і на біржы насельніцтва і юрыдычныя асобы скупілі ўжо на 422 мільёны долараў болей, чым прадалі. Гэта тэндэнцыя доўжыцца некалькі месяцаў і нашы людзі слаба вераць у моц беларускага рубля, калі нават кіраўнікі Нацбанка прызнаюць, што пачалася плаўная дэвальвацыя нацыянальнай валюты, узмацніўся ціск на айчынны валютны рынак.

Як заўсёды, на падобныя факты ў нас адрэагавалі звыклым чынам і на свет Божы ўсплыла ідэя аб увядзенні “100 USD доларавай выязной пошліны” не для турыстаў. Аказваецца, як нам патлумачылі, вось куды ідуць купленыя долары і еўра, занадта прадпрымальныя беларусы з крытыкуемай беднай краіны штогод вывозяць за мяжу ў Еўрасаюз да 3 млрд. долараў. Яшчэ раней у абвальным 2011 годзе такія ж “дзеячы” столькі вывезлі валюты за закуп аўтамабільнага быццам “аўтабарахла” і тады абвалілі рубель. Значыць зноў будзем змагацца з засіллем заходняга шырпатрэбу.

І ўвогуле складваецца ўражанне, што для чынавенства народ ставіць усё болей перашкод. Гэта ж вам не жартачкі, а толькі спецыяльныя агенствы падлічылі, што ў мінулым годзе на заработкі толькі ў суседнюю Расію з Беларусі выязджалі ад 1 да 1,3 мільёна чалавек. Прычым работнікі не самыя горшыя, а ў лепшым працаздольным узросце і розных прафесій. Для спецыялістаў такі факт даўно стаў відавочны, бо гэта вымушаная працоўная міграцыя. Але працэсы настолькі абвастрыліся, што ўжо і ў глыбінцы, у малых гарадах і пасёлках сталі сутыкацца з дэфіцытам працоўных рук і патрэбных спецыялістаў.

Самае цікавае, як з гэтымі з’явамі сталі змагацца. Зусім невыпадкова ўвялі павышэнне да 10 гадоў мінімальнага працоўнага стажу, неабходнага для налічэння сціплых сацыяльных пенсій. Перад гэтым былі прапановы ўвесці нават падатак на беспрацоўных, а беларускіх гастарбайтараў прымусіць плаціць за аказанне на радзіме медыцынскіх і іншых сацыяльных паслуг. Зараз дадумаліся да ўвядзення новай пошліны для людзей, якія з Беларусі ездзяць за мяжу і купляюць там розныя тавары, бытавую тэхніку, бо яны высокай якасці і таннейшыя, чым у нас. У свеце, дарэчы, падобныя нормы нідзе не існуюць, яны дзейнічалі да нядаўняга часу толькі на востраве “свабоды” Кубе, але і там былі адменены.

Цяпер вось разважаючы, што будзе ў нас далей, не адгарадзіцца ад думкі, што ўсё гэта робіцца не ад добрага жыцця. Сярод чыноўнікаў адна толькі Надзея Ермакова асмелілася выказацца, што нельга падобную пошліну ўводзіць абсалютна для ўсіх. На самой справе на граніцы цяжка будзе вылічыць, хто з беларусаў едзе па розных справах, да родных, у турпаездку, а хто рэгулярна ў шоп-туры.

Але, як ні лічыліся на самой справе з інтарэсамі беларусаў, калі разабрацца, так і не думаюць пра народ. Вось толькі, напэўна, і мы заслужылі, што робяць розныя эксперыменты над намі, дабраліся і да замежных паездак. Па гэтай прычыне колькі ўжо гадоў не запраюць пагадненне аб аблегчаным прыгранічным руху з Польшчай і Літвой. Такім чынам і да з’яўлення новай “жалезнай заслоны” ўжо недалёка засталося, калі грамадства моўчкі праглыне новую пошліну, а між тым дзяржграніцу толькі за 8 месяцаў перасяклі 12,5 млн. беларусаў…

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 10.10.13 | | | | Пятніца 11.10.13 | | | | Субота 12.10.13 | | | | Нядзеля 13.10.13 | | | | Пнд.14.10.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +9 | +9 | +14 | +10 | +9 | +9 | +14 | +11 | +10 | +7 | +10 | +5 | +3 | +4 | +10 | +6 | +5 | +6 | +11 |
| Ціск | 747 | 746 | 746 | 748 | 750 | 752 | 752 | 754 | 756 | 757 | 756 | 756 | 756 | 755 | 753 | 752 | 752 | 751 | 748 |
| Вільготнасць | 92 | 96 | 71 | 91 | 93 | 96 | 72 | 95 | 91 | 89 | 56 | 87 | 93 | 96 | 59 | 92 | 95 | 97 | 74 |
| Вецер м/сек | 4 Пд | 3 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 3 Пд | 1 Пд | 2 Пд-З | 1 Пн-З | 2 Пн-У | 5 Пн-У | 1 У | 2 У | 3 У | 2 У | 1 Пд-З | 1 Пн-З | 1 Пд | 1 Пд | 4 Пд-З |

## Дзень за днём

**Пры планах 9 мільёнаў тон збожжа ў Беларусі сабралі сёлета толькі сціплыя 7 мільёнаў. Па росце цэн беларусы і сёлета апярэджваюць усе краіны былога СССР. У 4-м квартале Расія сабралася паставіць у Беларусь па "тэхнічных прычынах" 3,1 мільёна тон нафты замест неабходных 5,75 мільёна, перад дзвюма айчыннымі НПЗ паўстала перспектыва перайсці на галодны паёк. Спад прамысловай прадукцыі прадоўжыўся ў краіне і восенню. Чэмпіянат свету-2014 па хакеі ў Мінску застрахавалі на выпадак адмены альбо байкоту. У Беларусі легалізавалі паслугі гаражнага аўтасервісу, а айчынныя сіноптыкі парадавалі, што не чакаецца суровай зімы.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Энергічны і прагматычны канцлер Ангела Меркель зноў прывяла сваю партыю ХДС/ХСС да пераканаўчай перамогі (42 % галасоў выбаршчыкаў) на выбарах у бундэстаг.

**Расія.** Прэзідэнт РФ Уладзімір Пуцін не выключыў свайго ўдзелу ў чацвёрты раз у наступных выбарах главы расійскай дзяржавы, якія адбудуцца ў 2018 годзе.

**Украіна.** Урад краіны ўслед за прэзідэнтам В. Януковічам аднагалосна падтрымаў дамову аб асацыяцыі з Еўрасаюзам, што адкрывае народу шлях да еўрапейскай якасці жыцця.

**Літва.** Аб'ёмы паставак беларускіх калійных угнаенняў праз порт Клайпеды скараціліся ў жніўні ў 2 разы, з пачатку года адгрузкі калію з Беларусі за мяжу зніжаліся кожны месяц.

**Кенія.** Падчас тэракту ісламістаў у гандлёвым цэнтры ў Найробі было забіта каля 100 і больш 200 чалавек паранена, сярод ахвяр пляменнік прэзідэнта з нявестай, паэт з Ганы.

**Сірыя.** На тэрыторыю расійскага пасольства ў Дамаску заляцеў мінамётны снарад і параніў лёгка 2-х чалавек, Масква зацята падтрымлівае зброяй рэжым Б. Асада.

**Кітай.** За крытыку дзеянняў паліцыі ў сацыяльнай сетцы Інтэрнэт у правінцыі Ганьсу трапіў у турму 16-гадовы школьнік, яму пагражае да 3-х гадоў пазбаўлення свабоды.

**Венесуэла.** З-за рэзкай крытыкі ЗША амерыканцы закрылі сваю паветраную прастору для самалёта прэзідэнта Н. Мадуры і не далі візы венесуэльскай дэлегацыі ў ААН.

**Швейцарыя.** На рэферэндуме большасць жыхароў краіны (73 % галасоў) прагаласавалі за захаванне прызыву на абавязковую ваенную службу тэрмінам 4-6 месяцаў і зборы далей.

**ЗША.** У выніку моцных лівняў і паводкі толькі ў штаце Каларада загінулі 10 чалавек, яшчэ 200 прапалі без звестак, стыхія разбурыла 1600 дамоў, пашкодзіла 30 мастоў.

**Свазіленд**. Мясцовы 45-гадовы кароль Мсваці III сабраўся жаніцца ў 18-ты раз і выбраў сваёй нявестай 18-гадовую фіналістку конкурсу прыгажосці, трое яго жонак уцяклі.

**Іспанія.** З-за крызісу ўпершыню іспанцы купілі за год на 80 тысяч веласіпедаў болей, чым было набыта імі 700 тысяч аўтамабіляў, чвэрць насельніцтва краіны цяпер не мае працы.

**Англія.** Сусветна вядомая спявачка Шэр адмовілася выступаць на адкрыцці ў лютым 2014 года зімовай Алімпіяды ў Сочы з-за дыскрымінацыі сексуальных меншасцей у Расіі.

**Ватыкан.** У базіліцы св. Пятра ў Рыме прайшла імша з малітвай за арыштаванага КДБ Беларусі ў пачатку лета ксяндза з Барысава У. Лазара, яму пагражае да 15 год турмы.

**Італія.** Ноччу ў горадзе Павія злачынцы залезлі ў мясцовую турму і ўкралі з кабінета яе дырэктара сейф з 5 тысячамі еўра, раней так, толькі днём, абакралі турму ў Швейцарыі.

# Урад удакладніў гранічны нарматыў кошту 1 кв.м жылля для разліку льготных крэдытаў




■ interfax.by

**Урад Беларусі сваёй пастановай N854 устанавіў адзіны гранічны нарматыў кошту 1 квадратнага метра агульнай плошчы жылога памяшкання, які выкарыстоўваецца ў 2013 годзе для разліку максімальнага памеру льготнага крэдыту на будаўніцтва і субсідый.**

Дакумент, апублікаваны на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, у прыватнасці, уносіць змяненні ў пастанову Савета міністраў ад 6 ЛІСТАПАДА 2012 N1023 «Аб мерах па выкананні заданняў на 2013 год па будаўніцтве жылых дамоў».

У адпаведнасці з папраўкай, гранічны нарматыў кошту 1 квадратнага метру памеры Br4, 6 мільёна выкарыстоўваецца і ў дачыненні для разліку максімальнага памеру льготнага крэдыту на будаўніцтва (рэканструкцыю ) або набыццё жылля па крэдытных дагаворах, заключаных з 15 Лістапада 2012 па 30 верасня 2013 года, а таксама для разліку аднаразовай субсідыі на будаўніцтва (рэканструкцыю ) або набыццё жылога памяшкання па рашэннях аб прадастаўленні аднаразовых субсідый, прынятым з 1 чэрвеня па 30 верасня 2013 года.

Нарматыў у Br5,3 мільёна цяпер будзе прымяняцца для разліку максімальнага памеру льготнага крэдыту і аднаразовай субсідыі на будаўніцтва (рэканструкцыю ) або набыццё жылога памяшкання па крэдытных дагаворах і рашэннях аб прадастаўленні аднаразовых субсідый, што заключаюцца і якія прымаюцца з 1 кастрычніка 2013 года. Гэты ж нарматыў будзе выкарыстоўвацца і для змены памеру адкрытых крэдытных ліній па крэдытных дагаворах, заключаных з 15 лістапада 2012 па 30 верасня 2013 года, з улікам будаўнічай гатоўнасці жылога дома.

Пастанова таксама ўдакладняе парадак прадастаўлення льготных крэдытаў на жыллё, а таксама парадак прадастаўлення аднаразовых субсідый на будаўніцтва (рэканструкцыю) або набыццё жылля і на пагашэнне запазычанасці па льготных крэдытах.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Глава Нацбанка РБ Н. Ермакова прызнала, што ў Беларусі ўжо ідзе паступовая дэвальвацыя нацвалюты, а вось дэнамінацыя рубля адкладваецца з-за вялікага росту цэн.

**Крычаў.** Міліцыя сумесна з КДБ арыштавалі гендырэктара ААТ "Крычаўцэментшыфер", які незаконна прысвоіў сабе 40 млн. рублёў чужой прэміі за эканомію энергарэсурсаў.

**Магілёў.** Жыхароў 31 вёсак раёна папярэдзілі, што іх будуць штрафаваць шмат разоў, калі яны не зарэжуць каля 600 сваіх свіней на панадворках у зоне 5 км ад свінакомплексаў.

**Мінск.** На 26 студэнтаў БНТУ з 9 факультэтаў завялі крымінальныя справы за падробку ліпавых бальнічных, каб апраўдаць прагулы заняткаў, 6 з іх ужо адлічылі з ВНУ.

**Любань.** Па падазрэнні ў стварэнні тут карупцыйнай схемы міліцыя затрымала 33-гадовага генеральнага дырэктара ЖКГ Мінскай вобласці, арыштавала яго маёмасць на 3,5 мільярда.

**Гродна.** У знак пратэсту супраць ціску адміністрацыі ў турме № 1 ускрыў сабе жывот асуджаны палітвязень, былы ваенны, афганец і прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч.

**Вілейка.** На сустрэчы з духавенствам арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч заклікаў каталікоў маліцца за арыштаванага КДБ ксяндза У. Лазара і быць уважлівымі, пільнымі святароў.

**Б а р ы с а ў .** Межгарнізонны ваенны суд пакараў 1,5 гадамі "хіміі" 27-гадовага жыхара Маладзечанскага раёна за ўхіленне на прызыў на службу, узбуджана яшчэ 38 такіх спраў.

**Жлобін**. Да прайшоўшых "Дажынак" абнавіўся пасля капітальнай рэканструкцыі коштам 7 млрд. рублёў аўтавакзал, райцэнтр атрымаў і 8 новых аўтобусаў МАЗ для перавозак.

**Гомель.** Па поясу балоце каля 10-й гадзіны вечарам знайшлі выратавальнікі ў лесе 70-гадовага грыбніка, які заблудзіўся, але паспеў патэлефанаваць на мабільнік сыну.

**Мінск.** 500 супрацоўнікаў сталічнай міліцыі адабралі і абавязалі вывучаць англійскую мову на курсах па 8 гадзін у тыдзень для падрыхтоўкі да чэмпіянату свету па хакеі-2014.

**Ганцавічы.** Бочка з вадой нечакана днём звалілася з прычэпа ў двары жылога дома і насмерць прыціснула 22-гадовага вясковага хлопца, па факце здарэння пачалі следства.

**Слуцк.** Народныя ўмельцы з усёй Міншчыны 2 дні ўдзельнічалі ў абласным свяце рамёстваў "Слуцкія паясы", багата было прадстаўлена родных ручнікоў, дываноў, лялек.

**Гомель.** Побач з лядовай арэнай і тэнісным кортамі ў абласным цэнтры адкрыўся першы Палац водных відаў спорту з басейнамі 50 метраў на 10 дарожках і для скачкоў у ваду.

**Мінск.** Выканкам УЕФА зацвердзіў Мінск і будучы нацыянальны футбольны стадыён на 35 тысяч месц на месцы цяперашняга "Трактара" адным з 39 кандыдатаў на Еўра-2020.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На фабрыцы "КІМ" адбыліся хваляванні рабочых, бо асобным з іх у сярэдзіне верасня яшчэ не выплацілі зарплату за чэрвень, даўгі бюджэту болей 80 млрд. рублёў.

**Талачын.** У 4-х правераных гаспадарак раёна і ў 3-х на Лепельшчыне Дзяржкантроль выявіў факты правядзення сяўбы азімых без унясення мінеральных угнаенняў і падкормкі.

**Орша.** На мясцовым авіярамонтным заводзе пачалі серыйна выпускаць верталёты Мі-8 МСБ, якія здольныя ўздымацца нават на самую высокую кропку свету – гару Эверэст.

**Б е ш а н к о в і ч ы .** Міліцыя затрымала 36-гадовага вадзіцеля-дальнабойшчыка з Шумілінскага раёна, які насмерць збіў 45-гадовую жанчыну, яна ляжала на дарозе ля вёскі Паўзер'е.

**Лепель.** З апёкамі бядра 2-й ступені трапіў у бальніцу 13-гадовы вучань, ён купіў на рынку пістоны, але ў школе на перапынку яны самі ўспыхнулі ў кішэні штаноў падлетка.

**Сянно.** На 72-м годзе пайшоў з жыцця ўраджэнец раёна генерал-лейтэнант, экс-старшыня КДБ Г. Лавіцкі, ён быў супрацць палітычнага вышуку спецслужб і адпраўлены ў адстаўку.

**Коханава.** Прадукцыя мясцовага завода "Белтрубпласт" стала пераможцам штогадовага рэспубліканскага прафесійнага конкурсу "Лепшы будаўнічы прадукт года-2013".

**Бягомль.** Упрыгожваннем гарпасёлка стаў унікальны ў Беларусі магазін-церам з дрэва "Дары прыроды" з вялізным асартыментам багацця лесу і саду, тавараў для дач і лазні.

**Браслаў.** Супрацоўнікі пагранпаста "Відзы" і мясцовага аддзялення пагранічнага кантролю справілі наваселле ў новым комплексе будынкаў з кацельняй, боксамі, лазняй.

**Полацк.** Чэмпіёнам раёна па зборы грыбоў стала старшы падаткавы інспектар Тацццяна Пасажэнікава, сярод 400 удзельнікаў сабрала за 4 гадзіны найбольш – 40 кг дароў лесу.

***Лёзна.*** Урачы раённай бальніцы не змаглі выратаваць жыццё 38-гадоваму жыхару вёскі Міхалінова, які пасварыўся з 24-гадовым аднавяскоўцам і быў вельмі моцна ім збіты.

**Віцебск.** Вядомага ўрача-праўдаруба Ігара Пастнова перавялі з утрымання ў псіхбальніцы на дзённы стацыянар, у свеце яго гатовы былі прызнаць вязнем сумлення за крытыку ўлад.

**Сянно.** У канцы выхаднога дня адбыўся пажар на мясцовым ільнозаводзе, хоць агонь тушылі 10 пажарных машын, згарэла ўся сыравіна новага ўраджаю.

**Лепель.** На кастрычнік перанеслі адкрыццё помніка новага сімвалу краю Цмоку на беразе мясцовага возера, бо не паспелі ўсё зрабіць да намечанага рытуалу на Дзень горада.

**Віцебск.** Да канца месяца ў адразу трох залах мастацкага музея будзе працаваць выстава работ апошняга часу знакамітага і моднага расійскага мастака Нікаса Сафронава.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# «Кожнае імгненне, як і душа, непаўторныя. Беражы гэта»

**У чацвер 3 кастрычніка ў Гарадскім цэнтры культуры адкрылася персанальная выстава мастака Эдуарда Мацюшонка.**

■ **Уладзімір Скрабатун**

**З творчасцю мастака Эдуарда Мацюшонка аўтар гэтых радкоў знаёмы ўжо досыць даўно. Была ўжо ў Глыбокім яго персанальная выстава ў 2005 годзе. Бачыў потым яго выставу да Дня беларускага пісьменства і друку ў Паставах, якая адбывалася ў кавярні "У Антонія", што месцілася ў сутарэннях палаца Тызенгаўза.**

У свой час я меў шчасце быць знаёмым з мастаком Вячаславам Целешам з Рыгі. Разам бралі ўдзел у культурніцкім жыцці беларусаў Латвіі. Часта бываў у яго майстэрні ў Старой Рызе, што месцілася на мансардзе старадаўняга дома. Гартаў кнігу наведвальнікаў… Пісьменнік Уладзімір Караткевіч пакінуў запіс, дзе пажадаў Вячку "трымаць бастыён беларушчыны ў Рызе". І ўжо тады ў мяне склаўся ўласны вобраз сапраўднага беларускага мастака. Ён – пісьменнік, гісторык, краязнаўца, археолаг, даследчык, вандроўнік, грамадскі актывіст, педагог… Спадар Целеш, між іншым, адчыніў у Рызе і беларускую школку, якая існуе і цяпер, быў штогодовым дэлегатам на З'езд беларусаў свету ў Мінску.

Так, так! Вы мяне зразумелі, шаноўныя чытачы! Эдуард Мацюшонак – сапраўдны беларускі мастак. Ён – гісторык, краязнаўца, добры экскурсавод - і ўсё гэта знайшло адлюстраванне ў яго работах. Ён – педагог, даследчык, рэканструктар гістарычных падзеяў, рэканструктар краявідаў беларускіх вёсак, мястэчак, і гарадоў, помнікаў даўніны, якіх ужо даўно няма, але яны ўваскрослі на карцінах Эдуарда Мацюшонка.

Што датычыць Глыбоччыны, Эдуард Мацюшонак піша карціны, якія вобразна можна назваць "сцежкамі Язэпа Драздовіча". А хто такі Язэп Драздовіч? Мастак, гісторык, краязнаўца, пісьменнік, археолаг, педагог (выкладаў маляванне ў Глыбоцкай гімназіі імя Люблінскай уніі), нават фельдчар (меў такую адукацыю і лячыў людзей). Язэпу Драздовічу сёлета - 125. Быў ён не аднаго разу ў Мнюце, заходзіў да Мацюшонкаў, знаходзіў тут прытулак і дапамогу. Пра яго апавядалі Эдуарду бабуля і дзядуля, бацька, маці…

На выставе быў урачысты момант. Мастак Эдуард Мацюшонак падараваў адну са сваіх карцін Глыбоцкаму гісторыка-этнаграфічнаму музею. Трэба адзначыць, што Эдуард выканаў сваю работу ў "стылі Драздовіча", толькі цяпер наадварот – сам Драздовіч на карціне Мацюшонка: нібы дываньмаляванка з партрэтам Язэпа Драздовіч, на фоне возера Мнюта і Задарожскага касцёла ў атачэнні красак (палявых кветак). Ноч, Поўня! Космас Драздовіча! Дзядзька Язэп вельмі любіў глядзець на начное неба! Супраўнік музея, навуковы супрацоўнік Уладзімір Міронччык, які атрымаў карціну ў дар, запэўніў: "Карціна не будзе ў запасніках музея, а ў сталай экспазіцыі".

Я не так і рэдка наведваў Мнюту, Задарожжа, Шэпелева, Панаму (млын "Панама" графа Берастоўскага), Азёркі, Вялец, Якубенкі (радзіму бацькоў пісьменніка Аляксандра Грына). Шмат чаго ведаю, шмат чаго знайшоў сам, але ў аповядзе Эдурда Мацюшонка, ужо ў якасці мастака і экскурсавода ізноў адкрыў для сябе гэты куток Глыбоччыны. І бачыў, з якім захапленнем усе прысутныя слухалі экскурсію мастака Эдурда Мацюшонка ў карцінах па Мнюце і яе ваколіцах.

На адкрыццё выставы завітала багата людзей. Гэта ўсцешвае – глыбачане цікавяцца мастацтвам. Быў прысутным і кіраўнік Глыбоцкага раёна Алег Віктаравіч Морхат. Я штосьці не прыпомню, каб колішнія кіраўнікі Глыбоцкага раёна прыходзілі на культурніцкія мерапрыемствы ў Гарадскі цэнтр культуры, у прыватнасці на выставы беларускіх мастакоў. А тут Алег Віктаравіч нават адзначыў, што даўно хацеў пазнаёміцца з творчасцю Эдуарда Мацюшонка. І не дзіва – малая радзіма сп. Морхата не так і далёка ад малой радзімы сп. Мацюшонка. Родныя сэрцу мясціны! Абодва бачылі адны й тыя відарысы: возера Мнюта, рэчка Дзісёнка, Задарожскі касцёл, палац у Гарадцы, мястэчка Лужкі, касцёл у Германавічах… Алег Віктаравіч не змяніў і тут свайго крэда – на культурніцкіх мерапрыемствах заўсёды прамаўляць на роднай мове!

– Вы мяне яшчэ ўспомніце!– напісаў некалі ў сваім дзённіку Язэп Драздовіч.

Так, дзядзька Язэп, успомнілі! Успомнілі! Хоць і праз шмат гадоў! Тваімі сцежкамі пайшлі – вечнай памяці Міхась Райчонак, а таксама Мікола Купава, Алесь Марачкін, шмат якіх іншых беларускіх мастакоў, якія і педагогі, і гісторыкі, і краязнаўцы, і пісьменнікі… Эдуард Мацюшонак – сярод іх.

Эх вы, настаўнікі глыбоцкіх школаў! Чаму вы вучыце сваіх вучняў! Чужой культуры? Маглі ж прывесці на адкрыццё гэтай выставы два-тры класы! Паверце: цуд і прыгажосць – побач, яны ёсць у нашым горадзе, нашым раёне!



**Алег Морхат захоплены творчасцю Эдуарда Мацюшонка. Ну, калі не землякі, дык – суседзі. Родныя краявіды!** *Фота Ул. Скрабатуна.*

### Наша даведка:

Эдуард Мацюшонак нарадзіўся 7 сакавіка 1958 года ў вёсцы Мнюта-2-я. З дзяцінства вызначаўся невытлумачальным імкненнем зразумець душу чалавека, разгадаць таямніцы прыроды. Яго жыццёвае крэда – "Кожнае імгненне, як душа, непаўторныя. Беражы гэта".

– 1973 год – скончыў Суклінскую 8-гадовую школу;

– 1973-1977 гг – вучоба ў Віцебскім станкаінструментальным тэхнікуме;

– 1977-1979 гг – служба ў войску;

– 1979-1984 гг – вучоба ў Віцебскім педінстытуце на мастацка-графічным факультэце;

– З 1984 года з сям'ёй жыве ў горадзе Вілейка ў СШ №2 (цяпер гімназія №1 "Логас") настаўнікам сусветнай мастацкай культуры і выяўленчага мастацтва, з 1998 года кіруе ў гімназіі студыяй выяўленчага мастацтва "Вясёлка".

Жонка Алена – настаўнік па адукацыі і мастак у душы і па жыцці, выкладае выяўленчае мастацтва і працоўнае навучанне ў гімназіі №1 "Логас". Сын Уладзімір названы ў гонар дзядулі, вылучаецца дабрынёй і грунтоўнасцю, любіць маляваць і канструяваць. Дачка Святлана, як свет, які па-над небам і зямлёй. Пайшла па шляху бацькоў. Вучыцца на мастацка-графічным факультэце Віцебскага педуніверсітэта імя П.М. Машэрава.

З 1986 года пачынае актыўную творчую дзейнасць. Бярэ ўдзел у Рэспубліканскіх маладзёжных выставах (г. Мінск), у Рэспубліканскай мастацкай выставе "Экалогія" (г. Мінск), у выставе, прысвечанай 100-годдзю В. Стрэмінскага (г. Вілейка).

У 1989 годзе прыняты ў Маладзёжнае аддзяленне пры Саюзе мастакоў СССР.

Персанальныя выставы:

– 1986 г., 1992 г., 2000 г., 2004 г., – г. Вілейка.

– 1987 г., г. Мінск (Палац прафсаюзаў).

– 1989 г., г Петрапаўлаўск-Камчацкі, агітацыйнае судна "Карчагінец".

– 1994 г., г. Гютэрслоў, Германія (Дні Беларусі ў Германіі).

– 1997 г., г. Вілейка, адкрыццё Выставачнай залы імя М. Сілівановіча.

– 2005 г., г. Глыбокае.

– 2005 г., г. Мядзел.

– 2006 г., г. Паставы.

– 2007 г., г. Паставы.

З 1984 года ў г. Вілейка працуе гарадская студыя выяўленчага мастацтва, якой, усе гэтыя гады, кіруе мастак Эдуард Мацюшонак.

Галоўная тэма творчасці мастака – родная Бацькоўская зямля і філасофія жыцця на гэтай зямлі. Цераз пяшчоту і прыгажосць ідзе пошук шляхоў паразумення і еднасці людзей паміж сабой, еднасці паміж людзьмі і прыродай. Тэматычная і сюжэтная разнастайнасць твораў – сведчанне глыбіні пачуццяў, здольнасць бачыць прыгажосць і веліч у звыклых простаму воку матывах. Эдуард Мацюшонак звычайна працуе ў тэхніцы алейнага жывапісу. Яго творы размешчаны ў прыватных калекцыях у нашай краіне і за яе межамі. Эдуард Мацюшонак заўсёды знаходзіцца ў творчым пошуку.



**Космас Драздовіча.** *Карціна работы Эдуарда Мацюшонка.*



**Маёнтак Мнюта-2, пач. XX ст.** *Карціна работы Эдуарда Мацюшонка.*

## Крыніца натхнення Эдуарда Мацюшонка

Пашчасціла быць на прэзентацыі выставы Эдуарда. Гэта з'ява ў жыцці Глыбокага. Меў радасць і захапленне ад аповяду мастака пра крыніцы натхнення яго творчасці: сын стаіць на плячах доследу бацькі, бацька на плячах свайго бацькі Вінцэнта, дзеда Эдуарда. Мастак выставіў карціны, якія сёння лучаць гледача з краявідамі Дзісеншчыны часоў Язэпа Драздовіча. Крыніцай натхнення мастака Эдуарда Мацюшонка з'яўляецца творчасць нашага земляка Язэпа Драздовіча, які быў таленавітым мастаком, гісторыкам, этнографам, археолагам, даследчыкам космасу, пісьменнікам, паэтам, настаўнікам. Але памёр у галечы і адзіноце. Чаму? Творчасць і жыццёвы шлях Эдуарда Мацюшонка, яго крэда: будаваць, мацаваць сям'ю, сямейнасць - найвялікшы дар жыцця. Эдуард далучае да сваёй сям'і ўсіх, хто прыйшоў углядзіцца на яго творы, якія лучаць дзень сённяшні з далёкім мінулым, прыгожае з трагічным

*Генадзь Плавінскі.*



**Унікальны дакументальны фільм пра Язэпа Драздовіча, які быў зняты два дзесяцігоддзі таму. Жывыя сведкі, якія бачылі славутага мастака. Аповяд Міхася Райчонка, заўчасна памерлага маладога беларускага мастака (сына Ады Эльеўны Райчонак). Аповяд апошняга жыхара вёскі Пунькі, які памятаў Язэпа Драздовіча. Унікальная гісторыя на відэа! Фільм дэманстраваўся пасля выставы Эдуарда Мацюшонка.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



■ Фадзей Шымуковіч, *настаўнік-пенсіянер, г. Дзісна*

# Дэмаграфічныя праблемы

**... толькі ў Народзе, у адным Народзе першааснова жыцця, сілы, будучыні, надзеі...**

*А. Незабытоўскі.*



*Фота Ул. Скрабатуна*

Калі зніжаюцца паказчыкі як чалавечага капіталу, так і чалавечага патэнцыялу, не можа ісці размова і аб развіцці краіны. Чалавек – утваральнік матэрыяльных і культурных даброт. Ад колькаснага і якаснага зместу гэтых параметраў залежыць геапалітычная вага любой дзяржавы, жыццёвы ўзровень яго народа.

З 1992 года ўзнаўленне насельніцтва ў Беларусі набывае новую якасць; упершыню за ўвесь пасляваенны час колькасць смерцяў за год перавышае лік нараджэнняў, а насельніцтва краіны скарачаецца прыблізна на 50 тысяч чалавек кожны год. Калі, па дадзеных перапісу насельніцтва ў 1997 годзе, колькасць перавышала 10 мільёнаў чалавек, то па дадзеных нацыянальнага статупраўлення на 1 лютага 2009 года было 9669,6 тысяч чалавек. Насельніцтва РБ на 1 чэрвеня 2010 года складала 9469,9 тыс. чалавек і ў параўнанні з пачаткам года скарацілася на 10,3 тыс. чалавек. Скарачэнне насельніцтва абумоўлена перавышэннем на 14392 чалавекі лік памерлых над лікам народжаных.

Вялікі мінус па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта ў тым, што назіраецца працэс старэння насельніцтва краіны. У адпаведнасці з класіфікацыяй ААН насельніцтва краіны лічыцца старым, калі доля асоб ва ўзросце 65 год складае 7%. На пачатак 2009 года ўдзельная вага гэтай узроставай групы насельніцтва ў РБ дасягнула 14,1% і дасягнула 2,1 млн. чалавек. У дадзены час 22% жыхароў краіны – старэй працоўнага ўзросту, г.зн. старэй за 60 год. Праблематычна рэзкае зніжэнне на 1000 чалавек у працоўным узросце - зніжэнне дзяцей ва ўзросце да 16 год. У 1970 годзе на 1000 чалавек іх было 586, у 2000 годзе ўжо 356 і ў 2009 годзе толькі 253. Гэта прычына таго, што будзе скарачацца колькасць працоўнага насельніцтва.

Сёння дэмаграфічная сітуацыя ў РБ ацэньваецца многімі спецыялістамі не проста як крытычная, але як глыбокая дэпапуляцыя. Гэта звязана не толькі з нізкай нараджальнасцю і высокай смертнасцю, але і з тым, што сярэдняя прадаўжальнасць жыцця застаецца пакуль што нізкай – 73 гады для жанчын і 63,2 гады для мужчын. І ўсё ж асноўная прычына – нізкая нараджальнасць, біч якой - масавыя аборты.

Па дадзеных ААН, у свеце кожны год адбываецца 45 млн. абортаў. У нашай краіне з кожных трох цяжарнасцяў толькі адно дзіця нараджаецца, а два гінуць у выніку абортаў. Толькі 60% першай, 30% другой і 10% трэцяй цяжарнасці заканчваюцца нараджэннем дзіцяці. Беларусь займае трэцяе месца ў свеце па колькасці абортаў.

Задумайся, паважаны чытач, 45 млн. яшчэ не нарожаных дзяцей! Гэта лічба адпавядае лічбе ахвяраў Другой сусветнай вайны, самай крывавай, якая працягвалася 6 год! Мы абураемся і ўздрыгваем пры думках аб колькасці загінуўшых, але таксама навучыліся быць абыякавымі да таго, што кожны дзень у свеце памірае 165 тысяч яшчэ не народжаных дзяцей. Мы навучыліся называць аборт нязначнай аперацыяй. Кажам, што ўсё гэта робіцца на карысць жанчын, апраўдваючы не то ўзроставым, то дрэнным матэрыяльным станам сям'і. Трэба ж прыдумаць тэорыю – не трэба пладзіць бядноту!

Што б вы сказалі пра маці, якая забіла сваё трохмесячнае дзіця з-за праблемы з жыллём? Або аб маці, якая выкінула на сметнік сваю грудную малечу? А ёсць і такія выпадкі і не адзінкавыя. Чаму ж мы спакойна глядзім на жанчын, якія ідуць на аборт з малечай, якая ўжо варушыцца ў іх пад сэрцам? Многія жанчыны ўпэўнены, што да нараджэння дзіця – частка іх цела, таму яны вольныя рабіць з ім, што ім захочацца. І таму, калі закон гэта дазваляе, значыць, гэта не забойства, якое ж гэта забойства, калі не народжанае дзіця – яшчэ не чалавек? Ён не мае ніякіх правоў, нават такога права, як права на жыццё. Калі ён поўнасцю залежыць ад маці і з'яўляецца яе часткай, ёй і рашаць, жыць яму або памерці. Мы ўсім сэрцам спачуваем жанчыне, якая хоча нарадзіць дзіця, але не можа па стане здароўя вынасіць яго ўсе 9 месяцаў. Мы працуем, часам некалькі дзён, каб выратаваць адно-адзінае дзіця пад заваламі будынка. Калі нас спытаюць, навошта мы гэта робім, можна ж другога нарадзіць, мы абураемся да глыбіні душы.

А ўся розніца паміж народжаным і ненароджаным дзіцём толькі ў тым, што аднаго мы бачым перад сабой, а другога не. Абодва маюць патрэбу ў нашым клопаце і без нас, без нашага клопату загінуць. Але калі мы не бачым гэтага ненароджанага, нам лягчэй сябе пераканаць, што гэта нежывая істота, а толькі невялікая колькасць клетак.

У часопісе "Здароўе" №6 за 1966 год быў надрукаваны "Незакончаны дзённік", як бы зачатай ва ўлонні маці дзяўчынкі. Канечне, гэта фантазія аўтара, але яна прымушае аб многім задумацца. Думаю многім, а жанчынам асабліва, будзе цікава прачытаць і задумацца, перш чым рашыцца на аборт.

"5 кастрычніка. Сёння пачалося маё жыццё. Мае бацькі пра гэта яшчэ не ведаюць. Я менш, чым яблычнае зерне, але Я ўжо Я. І хоць Я яшчэ не сфарміравалася, тым не менш Я ведаю, што буду дзяўчынкай.

19 кастрычніка. Я крыху падрасла, але Я яшчэ вельмі малюсенькая, каб рабіць штонебудзь самой. Мама робіць для мяне ўсё. І самае смешнае ў тым, што мама яшчэ не ведае , што яна носіць мяне тут, прама пад сэрцам. І што яна корміць мяне сваёй крывёю.

23 кастрычніка. Мой рот хутка пачне фарміравацца. Падумаць толькі, прыкладна праз год я буду смяяцца. Пазней я змагу гаварыць. Я ведаю, якое я вымаўлю першае слова: "Мама". Хто кажа, што я яшчэ не сапраўдны чалавек? Я ўжо чалавек, так як малюсенькая крошка хлеба з'яўляецца ўсё ж сапраўдным хлебам.

27 кастрычніка. Маё сэрца пачало стукаць самастойна. З гэтага моманту яно будзе стукаць на працягу ўсяго майго жыцця.

12 лістапада. Зараз пачынаюць фарміравацца мае ручкі. Якія яны маленькія, нават страшна. Калі-небудзь яны будуць іграць на скрыпцы, або намалююць карціну.

20 лістапада. Сёння доктар упершыню сказаў маме, што я жыву тут, у яе пад сэрцам. Ты шчаслівая, мама? Пройдзе некаторы час, мама, і я буду адпачываць на тваіх руках.

25 лістапада. Мае тата і мама нават не ведаюць, што я проста маленькая дзяўчынка. Можа яны чакаюць хлопчыка? Або двайнят. Але я іх здзіўлю.

10 снежня. Мой твар поўнасцю сфарміраваўся. Я спадзяюся, што буду падобна на маму.

13 снежня. Зараз я магу ўжо амаль бачыць, але ўсё яшчэ зусім цёмна кругом. А хутка мае вочы ўбачаць заліты сонцам свет. А як ты выглядаеш, мама?

24 снежня. Мама, я чую, як стукае тваё сэрца. Цікава, ці чуеш ты, як стукае маё сэрца? Я так чакаю таго моманту, калі буду ляжаць на тваіх руках і змагу кранаць твой твар, заглядваць у твае вочы. Ты чакаеш мяне так, як чакаю я цябе, мама?

28 снежня. Мама, чаму ты дазволіла ім забіць мяне? Нам было б так цудоўна разам…"

Заснавальніца Ордэна Міласэрнасці маці Тэрэза ў свой час заявіла: "Няма ні аднаго народа, які быў бы настолькі бедны, каб забіваць сваіх дзяцей і тым самым знішчаць сваю будучыню". Яна прасіла: "Вы не хочаце мець дзяцей?! Калі ласка, не забівайце іх, мы іх возьмем і знойдзем ім месца!" І знаходзіла месца для іх пражывання.

У 1960 годзе будучы старшынёй Стэфанпольскага сельсавета, мне было даручана ўручыць медаль "Мацярынства ІІ ступені" за нараджэнне пятага дзіця маёй суседцы. Час быў цяжкі. У калгасе працавалі за працадні, на якія нічога не давалі. Людзі жылі ў асноўным з даходаў асабістай гаспадаркі: агарод 60 сотак і карміліца-кароўка. Я тады толькі што дэмабілізаваўся з арміі і міжвольна пацікавіўся ў суседкі: "Цёця Аня, у вас шэсць едакоў, саміх двое і чацвёра дзяцей, як вы рашыліся на пятае дзіця?" На што яна адказала: "Няўжо мы ўшасцярох не пракормім гэту малютку?" Пракармілі, і не толькі. І сярэднюю школу закончыла, атрымала спецыяльнасць, сям'ёй абзавялася, вырасціла дзяцей. Зараз яна ўжо 53-гадовая бабуля. А мы – няма чаго бядноту пладзіць. Калі і баяцца бядноты, то духоўнай. Тут у нас поўны правал.

Бывацам і робіцца штосьці па папярэджанні абортаў. Полацкая епархія Беларускай Праваслаўнай Царквы стварыла Каардынацыйны цэнтр аховы жыцця і сямейных каштоўнасцяў "Зараджэнне". Але не чутна і не бачна яго работы. 10 жніўня ў Дзісне пры Ваcкрасенскай царкве адбылося святкаванне абраза "Святой маці Адзігітрыі". Народу з'ехалася многа. Адсвяткавалі па звычаю традыцый. Аднак пра шкоду абортаў з боку праваслаўнай царквы ні гу-гу. А вось каталікі, хоць свята было праваслаўным, зрабілі значную работу. Яны, са згоды епіскапа Феадосія, арганізавалі бясплатнае распаўсюджанне друкаванага матэрыялу аб шкодзе абортаў і, паралельна, вялі вуснае тлумачэнне грахоўнасці абортаў, іх шкоду, па мастацку дэманструючы макет у натуральную велічыню плода будучага чалавека, які ўжо сфарміраваўся, якога мы забіваем у час аборту. Многія прысутныя з вялікай цікавасцю ўспрынялі гэту інфармацыю. А вось раённая газета з захапленнем пісала аб тым, як удала прайшло свята, але ні слова аб дзейнасці каталікоў.

Дэпапуляцыя нацыі акрамя праблем нічога добрага нам не прынясе. Ужо сёння, асабліва ў сельскай мясцовасці, недахоп рабочых рук адмоўна адбіваецца на развіцці сельскай гаспадаркі. Прыцягненне рабочых рук з прадпрыемстваў на час пасяўной і ўборачнай кампаніі паказвае, што зямлі патрэбен не часовы рабочы, а гаспадар. Невыпадкова тое, што мы не хочам перайсці да адзнакі вынікаў работы сельгаспрадпрыемстваў па выніках, які атрыманы чысты даход з аднаго гектара сельгасугоддзяў, з аднаго гектара пахаты. Па ранейшаму ўлічваем гадавы надой на карову, сутачную прывагу ў грамах свіней і БРЖ, ураджайнасць зерневых у бункернай вазе. Гэтыя паказчыкі заўсёды можна падкарэктаваць. Мы ніяк не можам атрымаць аддачу ад зямлі, хоць бы на ўзроўні сярэдніх паказчыкаў краін, якія нармальна функцыянiруюць. Хоць вынікі дзейнасці асобных гаспадарак гавораць аб тым, што і наша зямля можа даваць аддачу на ўзроўні іншых дзяржаў. Але для гэтага неабходна мець дастатковую колькасць кваліфікаванай рабочай сілы, якая валодае высокімі маральнымі якасцямі. Прыходзім да выніку, што неабходна тэрмінова рашаць дэмаграфічную праблему.

У 1960 годзе, калі мне давялося працаваць старшынёй Стэфанпольскага сельсавета, на яго тэрыторыі пражывала каля 1360 чалавек, было 400 гаспадарак. У цяперашні час на гэтай тэрыторыі пражывае каля 360 чалавек, большасць пенсіянеры. Больш-менш буйнейшы населены пункт Сіцькова, з насельніцтвам прыкладна каля 180 жыхароў. Другія населеныя вёсачкі: Акунёва, Сокалава, Бандарцы на грані вымярання. У Сіцькоўскай СШ-садзе навучаюцца каля 65 чалавек. Асобныя класы адсутнічаюць з-за таго, што няма вучняў.

Калі ехаць па дарозе з Дзісны на Германавічы, то ад вёскі Сокалава да вёскі Людвінава няма ні аднаго жылога дома. А 50-60 год назад там была вёска Мурашчына на 61 двор. На працягу 8км ні адной жывой душы. А гэта ж Сокалава, Людвінава і Ямна выміраючыя пункты. І тады ад Сіцькова да аграгарадка "Зорка" на працягу 12 км будзе бязлюддзе.

У гаспадарках работнікаў вялагадоўлі і механізатараў вялікі дэфіцыт. Людзі ідуць на пенсію, а замяніць няма кім. У райгазеце "Мёрскія навіны" аб'яўлена аб патрэбнасці механізатараў. У раёне тэрмінова патрабуецца 30 механізатараў. Не хапае жывёлаводаў, будаўнікоў і работнікаў іншых прафесій. Адно добра – кіруючыя пасады пакуль што ўкамплектаваны поўнасцю і нават ёсць неабходнасць скарачэння гэтых кадраў.

